Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 16-га сьнежня 1933.

№ 25.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## За мінулы год.

Канчаецца 1933 год, а разам з гэтым канчаецца першы год працы Таварыства Беларускае Асьветы (ТБА) і нашага часопісу. Дык можна ўжо аглянуцца па пройдзены за гэты год шлях, падлічыць, што зроблена, што распачата, што трэба дакончыць, чаго нехапае.

Нашае таварыства (ТБА) распачала сваю дзеяльнасьць у няшырокіх межах. Яно здавала і здае сабе справу з таго, што беларуская культурна-асьветная праца — і наагул, і асабліва ў сучасны мамэнт — павінна стацца галоўным заданьнем усіх сьведамых беларусаў. Ведама, першым пунктам нашае культурна-нацыянальнае працы мусіць быць здабыцьцё нацыянальнае школы,—але нажаль пры сучасных варунках, пры расьцярушанасьці беларускіх сілаў да зьдзейсьненьня гэтага пункту яшчэ даволі далёка... Дык тым важней сягоньня праца пазашкольная, которая, ведама, не павінна засланяць сабой і нашае акцыі за беларускую школу.

Пабуджаньнем беларускіх масаў да працы над падняцьцем свайго культурнага роўня, над арганізацыяй усялякага роду культурных пачынаньняў (лекцыі, тэатр беларускі, канцэрты, хоры і г. д.) займаўся перад усім наш часопіс. Мы стараліся заахвоціць беларускага селяніна да кніжкі ў роднай мове, да арганізацыі беларускіх бібліатэк-чытальняў, да выпісываньня й чытаньня беларускіх газэт. Мы выясьнялі нашым чытачом усю вагу эканамічна-гаспадарчае працы, арганізацыі рознага роду кооператываў, паляпшаньня супольнымі сіламі сялянскае гаспадаркі, а таксама давалі адпаведны інфармацыйны матэрыял з галіны сельскае гаспадаркі і кооперацыйнае працы. І мы стараліся зьвязаць беларускую вёску з ТБА.

Тая жывая сувязь, якая з кожным днём шырэй і мацней завязываецца паміж ТБА і беларускай вёскай, тая праца, якая зроблена нашым арганізацыйным цэнтрам, дала, як на першы год, даволі памысныя вынікі. За гэты год у 33 пунктах закладзены бібліатэчкі-чытальні ТБА; у 12 пунктах арганізацыя гэтых-жа бібліатэк-чытальняў хутка ўжо будзе закончана; з 17 мейсц паступілі ў ТБА просьбы аб заснаваньні бібліатэк-чытальняў, якія будуць здаволены толькі ў наступным 1934 годзе. Сваей дзеяльнасьцяй ТБА абняло за гэты год адно толькі тэрыторыю Віленскага ваяводзтва, ня маючы пакуль-што магчымасьці разьвіць сваю акцыю шырэй. Апрача бібліатэк-чытальняў, ТБА зладзіла каля 10 лекцыяў па вёсках, а також 4 спэктаклі аб'езднага тэатру; праца апошняга, нажаль, не магла разьвіцца шырэй з прычыны нястачы на гэта неабходных грошы. У Вільні была склікана нарада бібліатэкараў, і ТБА пасылала сваіх інструктароў дзеля аб'езду цэлага раду пунктаў, у якіх вядзецца ці будзе весьціся праца. Урэшце, ТБА надрукавала за год пяць кніжак літаратурнага зьместу, праграму беларускае мовы для гімназіяў і статут Т-ва.

Вось усё, што ТБА здолела зрабіць за першы год сваей працы — для вёскі. Ня шмат гэта, але мусім сцьвярдзіць, што калі-б і іншыя беларускія культурна-асьветныя арганізацыі зрабілі за гэты год прынамся гэтулькі-ж, дык вынікі агульнага творчага высілку беларускага грамадзянства на ніве народнае прасьветы пры ведамых усім глыбака ненармальных варунках нашага жыцьця можна было-б лічыць зусім паважнымі.

Пажадаем, каб у будучым годзе ўсе мы маглі пахваліцца большым!

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Цяжкая ўтрата.** У пачатку гэтага месяца памер беларускі студэнт Пётра Пяршукевіч, які адзначаўся, як няўтомны і ахвярны працаўнік на культурнай і грамадзкай ніве (прачытаў шмат лекцыяў, паставіў вельмі шмат прадстаўленьняў). Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні належна аддаў апошнюю пашану свайму сябры, высылаючы дэлегатаў на хаўтуры з вянком у Навагрэдчыну. Тыя, хто знаў памершага, ніколі не забудуць яго і заўсёды будуць браць з яго прыклад у няўтомнасьці й самаахвярнасьці ў працы над вызваленьнем беларускага народу.

**Беларусы жылі ў Вільні ўжо ў XIII стагодзьдзі.** Пры далейшых раскопках на Бэкешовай гары ў Вільні знойдзена шмат новых рэчаў. Між іншымі, паводле заявы праф. Антоневіча, ёсьць татарскія стрэлы, што зьяўляецца проста рэвэляцыяй. Раскопкі вядзе Гурток Прэгісторыкаў пры віленскім унівэрсытэце. Сялібу, якую адкрылі на Бэкешовай гары, адносяць да XIII в. Славянскі характар яе сьцьвярджаюць фалістыя арнамэнты на гліняных вырабах,—і ясна само сабой, што тут жылі беларусы. Жыхары сялібы ўжо ведалі, як відаць з раскопак, ганчарскі круг.

**Голас запраўднага навукоўца.** 4. XII. а 12 гадзіне адбылася адкрыцьце Архэолёгічнага Музэю ў Вільні (пры Замковай вул., і мах унівэрсытэту). Увечары адбылася гарбатка зладжаная Гуртком Прэгісторыкаў пры унівэрсытэце, на якой прамаўлялі рэктар унівэрсытэту і вядомы архэолёг пр. Антоневіч. Гэты апошні прамаўляў да маладых прэгісторыкаў (сярод якіх ёсьць шмат беларусаў), падкрэсьліваючы важнасьць об'ектывізму ў адносінах да археолёгічных досьледаў. Шовінізм толькі перашкаджае ў выкрываньні навуковае праўды. Напр., у старой мінуўшчыне ня можа быць мовы аб палякох на ўсходніх абшарах сучаснае Польшчы (Беларусі), і таму асабліва тут об'ектывізм павінен займаць першае мейсца.

**З Т-ва Беларусаведы.** 10. XI. 33 адбыўся Агульны гадавы сход сяброў Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры Унівэрсытэце Сьцяпана Батурага ў Вільні. Старшынёй новага ўраду Таварыства выбраны Хв. Ільляшэвіч, сябрамі ўраду: М. Мілючанка, Ч. Будзька, Ш. Мацьвеева і С. Сарока; заступнікамі — Л. Стаўбунічанка і І. Будзьчанка.

**Да гісторыі друкарні Мамонічаў.** 3. XI. г. г. была прачытана Хведарам Ільляшэвічам, у Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры унівэрсытэце Сьцяпана Баторага ў Вільні, лекцыя на тэму: „Новае ў справе лёсу друкарні Мамонічаў“. Лекцыя гэтая была дапаўненьнем да лекцыі аб гісторыі друкарні, прачытанай у тым-жа Т-ве ў прошлым годзе.

**Ахвяры ў Беларускі Музэй ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні** паступілі ад наступных асоб: ад грам. К. Станішэўскай — каменная сякерка і акамянеласьць (каралі); ад вучня белар. гімназіі ў Вільні Шэшко (VII кл.)—тры медныя манэты; ад сьв. А. Мароза — 2 медныя манэты; ад гр. Б. Стэповіча—фігура Хрыста, выразаная з дрэва, і акамянеласьць (каралі).

Усім паважаным ахвярадаўцам Дырэкцыя Музэю шле гэтым шляхам сваю шчырую падзяку.

**З выдавецкае нівы.** Выйшла з друку апавяданьне для дзяцей п. н. „**Мурзік**“, выданьне ТБА.

Выйшаў „Беларускі Народна-Гаспадарскі Календар-кніжка—на 1934 год“. У календары ёсьць багаты гаспадарскі аддзел. Зьмешчаны таксама некаторыя літэратурныя творы. Цана календара 60 гр. Выдавецтва не паказана, але „сьмяхоты й дзівосы“ ў мове і правапісе паказваюць самі на выдаўца.

Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры У. С. Б. ў Вільні выдала „**Увагі дзеля запісываньня беларускай народнай творчасьці і абрадаў**“, апрацаваныя сябрам Т-ва **М. Пецюкевічам.** Паза пэўнымі пахібамі ў мове, выданьне даволі добра апрацаванае і можа служыць павадыром для зьбіральнікаў этнографічнага матэр'ялу.

**„Выключэньне“ б. сэнатара В. Багдановіча з беларускае хадэцыі.** Ужо даўно сярод беларускага грамадзянства выказывалася зьдзіўленьне, што на становішчы старшыні хадэцкага „Нацкому“ стаяў у працягу некалькіх гадоў гр. Багдановіч, чынны сябра расейскіх нацыянальных арганізацыяў. Яшчэ больш дзіўным здавалася й тое, што гэты выдатны барацьбіт за правы праваслаўнае царквы ў Польшчы мог падпарадкавацца хадэцыі, каторая выразна імкнецца да злучэньня праваслаўнае царквы з польскім каталіцтвам — да уніі. Паскольку йшчэ было зразу-

мелым, што хадэцыя, ня маючы інтэлігентных працаўнікоў, хапалася за расейскага нацыянальнага дзеяча і рабіла з яго прадстаўніка беларускае нацыянальнае мысьлі, настольку незразумелым было становішча самога гр. Багдановіча ў хадэцкай арганізацыі, спрэчнае з ягонай праваслаўнай ідэолёгіяй. Відаць, і сам гр. Багдановіч урэшце зразумеў двузначнасьць сваей ролі і зрокся рэпрэзэнтаваньня хадэцкае экспозытуры ў „Нацкоме“ дый наагул адсунуўся ад чыннае працы ў хадэцыі. Дык хадэцыя пачала шукаць новых людзей і знайшла іх у асобах п.п. Акіньчыца і Вярнікоўскага. Асоба гр. Багдановіча сталася непатрэбнай,—тым больш, што і становішча яго ў пытаньнях моральнага характару рэзка разыходзілася з становішчам кс. Станкевіча, пазбаўленага ўсякіх этычных прынцыпаў і моральнага пачуцьця. І вось — як паведамляе „Kur. Wil.“ — гр. Багдановіч аказаўся выключаным з складу хадэцкага „праваслаўнага камітэту“. Яго мейсца, відаць, у хадэкаў займуць п.п. Акіньчыць і Вярнікоўскі, гэткія блізкія і ідэйна, і моральна да кс. Станкевіча. Усе будуць „свае“.

**Канцэрт славянскай песьні**, наладжаны Бацькоўскім Камітэтам на карысьць вучняў беларускай гімназіі ў Вільні 10-га сьнежня, на-жаль, сабраў адных толькі беларусаў, а „братоў славян“ неяк зусім ня было відаць.. А шкада: канцэрт быў запраўды цікаўны і даў вялікае эстэтычнае здаваленьне, паказаўшы, што ня толькі на „танцулькі“ зьбіраецца беларуская публіка. Як заўсёды, вельмі прыгожае было выступленьне хору гр. Шырмы, — асабліва ў апошняй часьці праграмы, запоўненай беларускімі песьнямі; асабліва ці характару апошніх былі схоплены і адзначаны вельмі добра. Таксама і аркестр балалаечнікаў пад кіраўніцтвам гр. Траяноўскага сустрэўся з добрым прыймом у публікі. Соліст гр. Савіцкі выклікаў гарачыя воплескі салі. Канцэрт зацягнуўся блізу да поўначы. Сабраныя грошы пайшлі на дапамогу вучням, якім пагражала выдаленьне з гімназіі за неаплату грошы за вучэньне.

## На правінцыі.

**Водгукі самаўрадавых выбараў.** З цэлага раду мяйсцовасьцяў мы атрымліваем карэспандэнцыі з скаргамі на тыя варункі, у якіх здбываліся самаўрадавыя „выбары бяз выбараў“. Абраз усюды той самы. Людзі былі зусім непадгатаваны да выбараў, ня ведалі сваіх правоў, а хто пробаваў гэтых правоў даходзіць, таму не давалі голасу. Асабліва яркі абраз прадстаўляюць жалабы, прысланыя нам з Вішнеўскае гміны Вялейскага п. і Забрэзскае гм. Валожынскага пав. Сьпіскі беларускія ня былі дапушчаны. У тых-жа сьпісках, якія праходзілі, былі людзі нам чужыя, а побач з імі такія беларусы, каторыя ня ўмеюць ні чытаць, ні пісаць, дый наагул цёмныя і без'языкія... У Вішнеўскай гміне сяляне падалі пратэст старасьце і паслалі

# Сьвяточны выпадак.

Студэнт Корзун брыў па пустых вулках. Скіроўваўся на прадмесьце. Да хаты. Навакол было ціха й пуста. Неяк дзіўна ціха.

Звычайна вяртаўся пазьней. Цяпер — быў вечар перад Новым годам. Грошаў ня было. Можа таму й настрой быў такі паскудны й нявыразны.

Места адвярнулася ад студэнта Корзуна, лічачы яго як-бы не сваім сябрам. Места зачынілася ў пудэлачкі—пакоі. Места схавала ад студэнта Корзуна ўсе свае сьвяточныя справы. Чорныя вокны бясконцых дамоў як-бы казалі: Ідзі сабе, ідзі! Ты нам непатрэбны! Не адзін ён такі. Ідзе няпрыметны.., Ня бачаны нікім. Абсыпаны сьнегам. Шмат іх. Брыдуць па вуліцах. Не спатыкаючыся з сабой. Студэнт Корзун нават усьцешыўся, што ён мае хоць халодны пакой. На пятым паверсе. А колькі такіх, што пад сходамі... На станцыях...

Хай „яны“ сьвяткуюць. Глупства ўсё гэта. У душы студэнт Корзун ненавідзеў у гэтую хвіліну ўсіх. А тым ня менш... Добра было-б недзе сагрэцца цяпер... Закусіць... Ён-бы нават выпіў. Напэўна-б выпіў. Шмат піў-бы нават. Студэнт Корзун выабразіў сябе п'янага. Галава бясосільна апала. Ён падае ў процьму няяснага, бясоувязнага быцьця. Часта з ім гэта. Філёзофія. Эх!

Думкі пабеглі. Далёка. У родную вёску. Сьпіць яна спакойным сном. Чорная пляма сярод бясконцых сьнягоў. І ніякія Новыя гады ня трывожаць яе думак.

Не заўважыў—ці доўга йшоў. Ня думаючы, палез па сходах. Апіраўся моцна на парэнчу. Далез. Пачуў сэрца. Б'ецца. Зазваніў. Як звычайна — адчынілі. Страхануў размокшы сьнег і ўвайшоў у свой пакой. Вечар сумысьля як-бы прымушаў засумаваць. Кінуў пальто.., Кінуўся на ложак. Занямеў. Бяз думак. Глядзеўўў вакно. На кавалачак сіняватага неба. Не сцьвярджаў сваіх думак. Плылі.

За дзьвярыма чуў нейкі шорах. Усё мацней. Як-бы грамада людзей навалівалася на дзьверы. Вось зараз увалвуцца. Ускочыў. Няўжо галюцынацыя? Спраўдзіў. Сьціщаны сьмех. Тсыканьне. Шопат. Рашуча адчыніў дзьверы. Поўны карыдор людзей. Закіпеў. Што за зьдзек! Што за насьмешкі! Мала ім забаваў на Новы год? З чалавека робяць забаўку!

Вострa глянуў. Нэрвова:

— Чаго вы хочаце, панове?

Адказалі дружна:

— Ха-ха-ха...

Паўтарыў—крыкнуў:

— Я вас пытаю, чаго вам трэба?

Высунуўся наперад малы, тоўсьценькі ча-

дэлегатаў сваіх да Ваяводзтва і да ТБА ў Вільню. Такі ж пратэст падалі валожынскаму старасьце ў Забрэзскай гміне — з дамаганьнем назначэньня новых выбараў. Вынікі гэтых пратэстаў, а таксама і іншых, нам яшчэ няведамы.

## Б. С. С. Р.

**Узрост нацыянальнага пачуцьця.** „Kur. Wil." друкуе атрымованыя з пагранічча з БССР весткі аб тым, што беларускі нацыянальны рух, называны камуністамі „нацдэмаўскім" (нацыянал-дэмакратычным), страшэнна шырыцца ня толькі сярод беларускае інтэлігенцыі, прафэсароў, студэнтаў і г. д., але абхапіў такжа сялянскія і работніцкія масы. У сувязі з гэтым у Менску адбылася адумысная камуністычная нарада, склікання Ц. К. КПБ, на якой гэту справу шырака абгаварывалі. Вельмі рашуча выступалі перад усім польскія камуністы— Домбаль, Ясеньскі, Ляньцуцкі і Пётроўскі, а такжа — як падае „Kur. Wil". — былыя грамадаўцы (?). Нарада прыняла рэзалюцыю, скіраваную проці ўсіх, хто спагадае беларускай нацыянальнай ідэі; сярод такіх спагадчыкаў ёсьць асобы, якія займаюць высокія становішчы ў Саветах.

Думаем, што ўсе „рашучыя меры" проці беларускага нацыянальнага руху ў Саветах нічога не дасягнуць: рух гэты, пазбаўлены павадыроў, стаўся стыхійным, масавым, і зламаць яго Маскве ня ўдасцца! Не дарма і сказаная рэзалюцыя абвяшчае гэты рух „найбольш небясьпечным"..

**Беспадстаўная чутка.** У папярэднім нумары мы перадрукавалі паданую польскай прэсай чутку, што гр. гр. Тарашкевіч і Рак-Міхайлоўскі ранены падчас катастрофы на чыгунцы каля Полацку. Як нам удалося выясьніць, чутка гэтая зусім нязгодна з праўдаю.

## У Латвіі.

**Заклік да арганізацыі работнікаў беларусаў.** У складзе Латвійскае Соцыял-Дэмакратычнае Партыі ўжо даўно існуюць нацыянальныя сэкцыі: расейская, нямецкая, польская і літоўская. Апрача гэтых нацыянальнасьцяў у складзе партыі ёсьць і жменя беларусаў, на чале з ведамым беларускім дзеячам гр. Ул. Пігулеўскім, але яны — дзеля сваей малой лічбы—дагэтуль ня выдзеліліся ў асобную сэкцыю і прымалі ўчасьце пераважна ў працы расейскае сэкцыі. Гэта выклікала пэўныя закіды па іх адрасу з боку іх палітычных праціўнікаў сярод беларускага грамадзянства, хаця гр. Пігулеўскі свае сілы шчыра аддаваў і аддае беларускай справе, займаючы важнае і адказнае становішча кіраўніка беларускага аддзелу ў міністэрстве асьветы, а нейкі час і паслуючы ў латвійскім Сойме. — Цяпер, відаць, справа стварэньня беларускае сэкцыі ў Латвійскай С.-Д. Партыі ўзыйшла ўжо на парадак дня. У партыйным органе С.-Д. „Трудовая Мысль" з 26 га лістапада надрукавана адозва, якая за-

---

лавечак. У мушцы. Нясе духамі.

— Мы *вас* зараз спытаемся, чаго *вам* трэба?

Падвысіў голас:

— Мы вас зараз спытаемся, як у чужыя памешканьні прыходзіць.

Усе чакалі — што адкажа.

Зразумеў. Памыліўся на адзін паверх. Увайшоў паліцыянт.

Не пасьпеў апраўдацца.

— Выбачайце—пачаў — але я студэнт... я тут жыву.. вышэй... я...

Перабілі.

— Пане! Вазьміце гэтага злодзея. Хацеў абакрасьці. Забраўся ў пакоі.

— Але-ж выбачайце—пачаў.

Ня кончыў.

— Марш!

— Як жа?..—бараніўся.

— У арыштце даведаемся.

Пайшлі. Ногі сунуліся, чапляліся засьнежанага тратуару. Нічога не хацеў.

———

У арыштце сядзела яшчэ колькі чалавек. Студэнт Корзун мусіў пагадзіцца з рэальнасьцю. Начальнік арыштнага дому дзесь гуляў. Прыйдзецца пачакаць да заўтра. Людзі ў арыштце недаверчыва глядзелі адзін на аднаго. Студэнт Корзун лёг на нары. Хацеў заснуць. Але думкі збунтаваліся. Не суніміліся. Дражніліся.

— За што вас?—спытаўся сусед Корзуна.

— Нізашто—буркнуў. Адвярнуўся. Думкі стаміліся. Па целе расплылася ўтома. Задрамаў. Разбудзіла яго лаянка. Сусед яго лаяўся. На чым сьвет стаіць.

— Новы год! Чорт вазьмі! Прыходзіцца тут сядзець як сабацы!—Арыштаваныя патаківалі. Кашлялі. Корчыліся. Крывіліся.

— А ведаеце што?—сказаў сусед Корзуна. — Вось мы тут спаткаем Новы год. Ужо зараз будзе 12 гадзіна. Я думаю, што ніхто хіба ня хоча спаць. І вы здаецца — зьвярнуўся да Корзуна—ня сьпіцё. Давайце расказываць што-небудзь. Вось нейкі сьвяточны выпадак можа з кім здарыўся. Так і хут эй ноч пройдзе.

Студэнт Корзун ахвотна далучыўся. Ён меў сьвяточны выпадак...

———

Назаўтра Корзуна звольнілі. Начальнік арышту, сьпіты і сонны, воража глянуў на Корзуна. Побач яго стаяў сусед з арыштнае камэры.

— Н віна!—сказаў начальніку.

Падпісаўся. Пайшоў. Сьняжок круціўся, і дамы выглядалі як за белай сеткай. Корзун ішоў з думкай, каб не намыліцца на адзін паверх. Але была й другая думка — ясная, акрэсьленая—вярвей: пачуцьцё — аб сытых і галодных...

**М. Дальны.**

**клікае беларускіх работнікаў, а таксама сялян і працоўную інтэлігенцыю, каб запісываліся ў Партыю з мэтай выдзяленьня ў яе складзе асобнае беларускае сэкцыі.**

Шчыра вітаем гэты крок у кірунку арганізаваньня працоўных беларусаў у сваей нацыянальнай сэкцыі.

# Палітычная хроніка.

**Узнаўленьне працы бюджэтнай сэсіі Сойму.** 11 сьнежня ўзнавілася праца бюджэтнай сэсіі Сойму.

---

**Рэформа Лігі Нацыяў.** У апошнія часы „слаўная“ Ліга Нацыяў (Дзяржаў), ці „Ліга Народаў“, як яе слушна завуць „чэдзяржаўныя“, парэзаныя ды падзеленыя паміж дзяржавамі народы,—трашчыць „па ўсім шв м“.

Як ведама, Ліга Нацыяў пабудавана на Вэрсальскім трактаце, які фактычна і юрыдычна выключаў Нямеччыну з ліку вялікіх дзяржаў. Дык, пакуль Нямеччына была воках Лігі, усё йшло добра: Англія і Францыя падзялілі паміж сабой панаваньне ў Лізе — Францыя над Эўропай, Англія — па-за Эўропай. З уваходам у Лігу Нямеччыны гэты „Вэрсальскі лад“ у Эўропе пачаў шпарка валіцца. Нямеччына пачала з нячуванай хуткасьцяй займаць „сваё месца пад сонцам“, як вялікая дзяржава,—з бязумоўнай дапамогай нездаволенай сваей доляй у „дабычы пераможцаў“ Італіі, а такжа і Англіі, якая імкнецца йзноў адбудаваць—замест францускай дыктатуры ў Эўропе — даваенную сыстэму „эўрапэйскай раўнавагі“, так карысную для Англіі.

Гэтую ўнутраную барацьбу паміж эўрапэйскімі дзяржавамі, страшэнна зьмяншаўшую сілу Эўропы наагул ды забіваўшую ўсякую вагу й павагу Лігі, спрытна выкарыстала Японія. Японія зрабіла блізу сьмяротны ўдар Лізе Нацыяў, сьпярша маральна, напаўшы вайной на сябру Лігі — Кітай, а пасьля і палітычна—сваім выхадам з Лігі.

Але сьмяротная барацьба паміж эўрапэйскімі вялікімі дзяржавамі, дабіваўшая Лігу, ня гледзячы на гэта, працаўжалася. Сьледам за Японіяй пайшла й Нямеччына, калі пабачыла, што пабудаваная на „Вэрсалі“ Ліга ня можа даць ей роўнасьці з іншымі вялікімі дзяржавамі, дый як толькі пачула, што мае ўжо сілу сама здабыць сабе гэтую роўнасьць па за межамі Лігі. Такім чынам—з 7 вялікіх дзяржаў сьвету толькі 3, значыць меншасьць, асталіся ў Лізе.

Ясна, што гэта для Лігі — ўжо запраўдныя хаўтуры. Трэба было або ратаваць Лігу дзеля жыцьця, або ўжо хаваць яе фармальна. Дзьве вялікія дзяржавы блізу адначасна й выступілі з гэтымі двума роднымі праектамі. Японія запрапанавала „грунтоўна зрэформаваць“ Лігу Нацыяў, забіўшы яе на сьмерць, як установу міжнародна-палітычную, ды пакінуўшы ей жыцьцё толькі дзеля міжнароднага культурнага супрацоўніцтва нацыяў. Італія, наадварот, хочучы ратаваць палітычнае жыцьцё Лігі, запрапанавала пазбавіць Лігу тэй яе ненавіснай для раду вялікіх дзяржаваў „вэрсальскай падставы“, якая якраз устрымала ад уваходу ў склад Лігі адны з гэтых дзяржаваў дый змусіла да выхаду іншыя.

Думка аб тым, што „Новая Ліга Нацыяў“ павінна быць пабудавана не на міравым трактаце, які дзеліць фактычна „на век“ дзяржавы на пераможцаў і пераможаных, але на новай умове на падставе роўнасьці,— зусім слушная. Але „рэформа“, прапанаваная Італіяй, гэтую роўнасьць мае тасаваць толькі да вялікіх дзяржаў.

Праект Італіі, зацьверджаны Вялікай Радай Фашыстаў, кажа зусім адкрыта, што права рашаючага голасу ў справах сусьветнага значэньня, а таксама ў справах датычачых вялікіх дзяржаваў, маюць выключна вялікія дзяржавы — „дзяржавы сусьветных інтарэсаў“, якія ўсе павінны ўваходзіць у склад новай Лігі. Сярэднія і малыя дзяржавы павінны мець у Лізе голас толькі ў справах, якія датычаць іх жыцьцёвых інтарэсаў, але — голас іх рашаючай сілы („veto“) мець ня можа, бо ж ніводная з іх ня можа фактычна ўзяць на сябе адказнасьць за тое ці іншае рашэньне Лігі, асабліва ж у справах, якія вырашаюць мір ці вайну ў будучыні... У сувязі з гэтым скасаваньнем вэрсальскага трактату ў Лізе вялікія дзяржавы маюць і права, і абавязак паставіць і вырашыць справу перагляду створанага ім тэрытарыяльнага ладу, ці — перадзелу граніц у Эўропе, якія пагражаюць вайной.

Італія ня толькі падала такі праект рэформы Лігі Нацыяў, але Вялікая Фашыстаўская Рада пастанавіла паставіць рэалізацыю гэтага праекту, як варунак бытнасьці надалей Італіі ў складзе Лігі... Такім чынам, далейшы апор Францыі і Англіі давядзе да таго, што ў Лізе застануцца толькі 2 вялікія дзяржавы, а па-за Лігай — 5... Ясна, што першая Англія ніколі не дапусьціць да гэткага скандалу.

Такім чынам — на чаргу палітычнага дня рубам пастаўлена справа грунтоўнай рэформы Лігі, адмова ад якой няўхільна прывядзе „жывы труп“ яе — да труны й магілы. Дык — у гэтым націску на Францыю, якая галоўным чынам упіраецца процi гэтай рэформы, — і то націску з усіх бакоў — і зьмяшчаецца цэнтральная вось міжнароднай палітыкі бягучага мамэнту.

**Францыя аб Мусолініяўскай рэформе Лігі.** У адказ на праект Італіі першая адазвалася Францыя. Міністар замежн. спраў яе Поль Бонкур заявіў, што Францыя гатова зрабіць тыя ці іншыя „паляпшэньні“ ў статуце Лігі, але ніколі не дапусьціць парушэньня самых падставаў Лігі—роўнасьці правоў і голасу ў ёй усіх яе сяброў, як вялікіх, так і малых дзяржаваў.

**Падарожа Літвінава.** Вяртаючыся з Амэрыкі ў Эўропу, Літвінаў проста паехаў у Рым—у гасьціну да самога Мусоліні. З ім канфэраваў некалькі дзён, пасьля чаго—праз Бэрлін, дзе спыніўся на некалькі гадзін у савецкім пасольстве, але не пабачыўся навет з кіраўнікамі нямецкага ўраду, паехаў дамоў у Маскву. Аб чым Літвінаў гутарыў з Мусоліні, ані ён, ані савецкая прэса ня кажа нічагусенькі. Трэба думаць, аднак-жэ, што Мусоліні не ўдалося нахіліць Літвінава да ўваходу СССР у ягоную „новую Лігу Нацыяў“, а таксама прыхіліць да акцыі на карысьць Нямеччыны дый проці Францыі, Польшчы і інш. саюзьнікаў Францыі. Гэта відаць хіба-ж з таго, што Літвінаў адмовіўся ад спатканьня ў Бэрліне з Гітлерам і яго міністрамі... Такім чынам — „францускі лягер“ у „Вэрсальскай Эўропе“ пакуль яшчэ ня можа лічыцца пераможаным: СССР, хацяй ня з ім, але й не процi яго...

**Анарха-камуністычная рэвалюцыя ў Гішпаніі.** У зьвязку з парляманцкімі выбарамі, даўшымі рашучую перамогу цэнтра-правым партыям, у Гішпаніі пачаліся разрухі, каторыя могуць ператварыцца ў новую рэвалюцыю, кіраваную, як трэба думаць, камуністамі дый анархістамі. Асаблівую сілу гэты рух мае ў сэпаратыстычнай Каталёніі. Міністар унутраных спраў заявіў, што ўрад здолее ў хуткім часе зусім апанаваць палажэньне.

**Перабудова дзяржаўнага ладу ў Эстоніі.** Пад націскам магутнай арганізацыі „Саюзу былых байцоў за незалежнасьць“ дый у сувязі з гаспадарчым крызісам — эстонскі парлямант прыняў апрацаваны „Саюзам“ праект рэформы канстытуцыі—на падставе панукчага цяпер блізу на ўсім сьвеце імкненьня да „монархізацыі выканаўчае ўлады“ — коштам улады законадаўчае (парляманту). „Старая Эстонія“ ня мела дагэтуль зусім асобнага прэзыдэнта. Галавой дзяржавы быў старшыня парляманту. „Новая Эстонія“ будзе мець прэзыдэнта, дый яшчэ маючага вельмі шырокія паўномоцтвы—коштам парляманту, які напалову зьменшаны ў сваім складзе (—з 100 пасолоў на 50).

У выніку гэтага ўрад Тэнісона, праціўніка рэформы, падаўся ў адстаўку. Новы габінэт — дзеля правядзеньня новае канстытуцыі ў жыцьцё—зладжыў з „фахоўцаў“, а не ў палітычных дзеячоў, лідэр партыі „зямляробаў“ Пэтс.

Адзіным кандыдатам на прэзыдэнта зьяўляецца ведамы генерал Ляйдонэр, гэрой вайны за незалежнасьць.

У што выльлецца ўся гэтая рэформа: ці завядзе ген. Ляйдонэр дыктатуру і фашызм, як перасьцерагаюць праціўнікі рэформы, —пабачым.

---

Перачытаўшы газэту —
перадай другому.

# Паштовая скрынка.

**Гр. Яковічу** у в. Махалы, Лідзк. пав. Вашае пісьмо з асьведчаньнем аб бібліатэцы Т. Б. А. атрымалі. Шкада, што не спрабавалі заверыць свой подпіс у гміне. Справу аб легалізацыі Бібліатэкі ў в. Махалы пусьцілі ў ход, а пакуль-што прышлеце аб сабе больш дакладныя інфармацыі (век, веравызнаньне, асьвета, стан цывільны, стан матэр'яльны і г. д.)

Што датычыць Вашага праекту, дык думка гэтая добрая, толькі пашто Вам кніжкі з галіны права карнага? Вам патрэбны добры юрыдычны парадпік наагул, а пераважна з галіны права цывільнага і адміністрацыйнага, датасаваны да патрэбаў вясковага насяленьня. Таму пакуль-што вышлем Вам такі параднік, а там паглядзіце, ці ён ня будзе для Вас здавальняючым.

**Гр. Станкевічу** у в. Гародзькі Валож. п. Ліст Вашы атрымалі—дзякуем. Напішыце, як Ваша здароў'е — ці можаца ўжо распачаць працу ў суседнім раёне Віленскага ваяв.

**Гр. Я. Пятроўскаму**, Дзярэчын. Слонім. пав. Тэрмін легалізацыі бібліятэкі-чытальні канчаецца 15. I. 1934 г. Калі да гэтага часу атрымаеце адказ ад стараства, паведаміце зараз жа сэкрэтарыят Т-ва аб яго зьмесце.

---

**Рыначныя цэны ў Вільні. (16. XII. 1933).**

Жыта 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Ячмень гурт. 2 зл., 00 гр. дэт. 2 зл. 30 гр. Авёс гурт. 1 зл. 70 гр дэт. 2 зл. 00 гр. Пшаніца гурт. 2 зл., 80 гр. дэт. 3 зл. 20 грашей. Бульба пуд. 80 грашей дэт. 1 зл. 20 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр.—2 зл. Шмалец 2 зл. — 2 зл. 40 гр. Масла прас. 3 зл. 80 гр. — 4 зл. 20 гр., масла гаспадар. 3 зл. 00 гр.—3 зл. 40 гр. Яйкі 8-10—10-14 гр. Даляр 5 зл. 72 гр.

---

# ЛІТЭРАТУРНЫ КУТОК.

Ул. Казарэвіч

## Разам наперад!

Галаву, браце, ўверх! Ня тужы, не бядуй,
Бо мы сілу і веру ўжо маем!
Ты на гора свaё не сярдуй і ня злуй —
З яго выхад бліскучы мы знаем:
Рынем дружна сьцяной на змаганьне, на бой,
Рукі оплёўшы, як брацьця, у згодзе,
У барацьбе з злыбядой у краіне усёй
Шлях пралoжым мы к шчасьцю, свабодзе!
Пот ліецца і кроў, рукі ўсе ў мазалёх
Ад плуга, ад касы, ад сякеры, —
Але песьня зьвініць па лясох, па палёх,
Песьня нашае волі і веры!

Міхась Машарэ.

* * *

Маліцца болей я ня буду
І жаліцца—нікому і нідзе.
У родным Краю—як прыблуда,
І ты зямля—ня матка мне.

Так многа мейсца ёсьць на сьвеце
У шыр і даль тваіх палёў,
А толькі кут прапаў мой недзе,
І я чужы паміж братоў.

Блуджу з бяздомнаю тугою,
У сэрцы сум усьцяж мацней.
Дзікун з дзіцячаю душою
Паміж асьвечаных людзей.

Малюўся тайна чыстым сэрцам
На белы куст і лебяду
І мроіў, што —
ў прыгожай паняверцы
Спаткаю праўду, ці знайду.

У бязьмежных далях закаханы,
У нейкім песенным чаду,
Маліўся радасьці нязнанай,
Як дзяк—зьмірэнна-паслухмяны,
За зьдзек, за боль і злыбяду.

Маліцца больш ужо ня буду
І жаліцца—нікому і нідзе,
Бо сёньня меншых крыўдзяць ўсюды,
І з гэтых крыўд людзкой пакуты
Страшное штось —
расьце, расьце. .

Ар. Ат.

* * *

Зорачкі, зарніцы
Вечарам ірдзяцца...
На лузе, за вёскай
Туманы лажацца.

Слухай, як дзяўчаты
Песьню запялі:
Як дзяўчыну замуж
Сілай аддавалі.

Шчыміць, шчыміць сэрца —
Песьні родныя словы.
На асьверы месяц
Аняміеў вясковы.

Чутны вёскі гукі...
То гармонь — фарсуха
Стала забаўляцца,
Песьняй разудалай
Плакаць, захлынацца...

Мікола Засім.

## Знатакі.

Як ты хочаш, браце, знаці,
Што на сьвеце дзе чуваці,
Хто у вёсцы дзе з кім б'ецца,
Ды каму добра жывецца,
І якая дзеўка тоўста,
Дык ідзі, мой браце, проста
Ў двор, дзе з вёсак баб сот пяць
Бульбу панскую тапчаць.
Каля іх ты за хвіліну
Будзеш знаць усе навіны,
Й на дадатак, як з газэты,
Табе скажуць, што кадэты
Вайну Польшчы абвясьцілі,
Што ля Лёндана пабілі
Многа вельмі ўжо палякаў,
Што даўно ўжо горад Кракаў
Ўзят арабскімі вайскамі,
А Кітай з бальшавікамі
Ідзе фронтам на Расею —
Ваяваці будуць з ею,
А з Расеі праз Сахару
Проста пойдуць на Варшаву,
А з Варшавы — на Каўказ,
А з Каўказу — прост да нас...
Эх, кабеткі вы, кабеткі,—
Зьвярнусь тут я да вас, кветкі:
Кіньце ўрэшце, мае душкі,
Кагось церці на цяртушцы,
Бо і той-жа вас таксама
Трэ усюды чым папала.
Гэтым, цёткі, паміж вамі
Капаюцца толькі ямы.
Пра вайну-ж, мае кабеткі,
Гаварыць пакіньце, кветкі,
Бо ўсе вашыя навіны
Вы пачулі ад Грыпіны,
А Грыпіна ад Катрыны,
А Катрына ад Марыны.
Сапраўды-ж ваша размова
Нат' ня варта гэтых словаў,
Бо, каб вы, мае кабеткі
Хоць чытаць маглі газэткі,
Дык ніколі-б, мае цёткі,

Ня пушчалі-б нейкай плёткі.
Дык хоць дзетак сваіх веце
Як мага ў школах вучэце,
То яны тады з навукай
Вам пакажуць усе штукі. 1928.

## Літэратурныя навіны.

Спасярод навейшых твораў, дайшоўшых да нас з Савецкае Беларусі, даволі шмат ёсьць драматычных твораў. Драма наагул разьвіваецца даволі буйна ў беларускай літаратуры Савецкае Беларусі. У той час, як проза яшчэ не заняла належнага ёй у літаратуры мейсца, драма ўжо можа лічыць сябе ганаровым оябрям літэратуры. Сапраўды, драма можа найлягчэй і найвярней адбіваць жыцьцё, адрываць яго з цэлага раду сувязяў і адносінаў на сцэну. Заданьнем драматурга ёсьць толькі падчыркнуць і паглыбіць пэўныя канфлікты, надаючы ім грамадзкі характар і псыхолёгічную размалёўку.

**З. М. Ільлінскі „Пустазельле“**, драматычны эцюд на 3 дзеі. Бел. Дзярж. Выд. Менск, 1931 („Тэатральная бібліятэка“) 56 стр.

Сюжэт эцюду наступны: У вёску Скакоўку прыехала тыдзень таму вучыцелька Марына Грэбянюк. Вёска Скакоўка яшчэ толькі будзіцца да савецкага жыцьця. У ёй ужо выразна зазначаны клясавыя групы: поп Ніканор—душа і розум кулацтва—і Хрысан, старшыня калгасу, з іншымі беднякамі. Ідзе якраз праца над хлебападрыхтоўкай. Бацюшка Ніканор імкнецца да зрыву гэтае кампаніі. Ен выкарыстоўвае спрытна акалічнасьць, што Хрысан, як малапісьменны (бо ў арміі навучыўся пісаць крыху), ходзіць да Марыны вечарамі вучыцца.

Ацец Ніканор пушчае плётку, што Марына распусьнічае (вядома, з гораду, з заводу). І вось гэтая сьвядомая ілжа перашкаджае ў хлебападрыхтовачнай працы, пагражаючы ёй зрывам. Ніканор намаўляе заможнейшых сялян праз кулака Мікіту Глебку напісаць скаргу на Марыну, што і робіцца. Ніканор з Мікітай толькі рукі заціраюць. Зена, жонка Хрысана, верыць таксама ў плётку, пушчаную Ніканорам. Гэта перашкаджае Хрысану ў занятках, якія ён урэшце і кідае. Урэшце прыяжджае з места рабочы Тышкевіч, якому ўдаецца высьвятліць усю справу. У гэтым памагае яму серадняк Пётра, які бачыў усе хітрыкі, і малы хлапец Мікола. Усе (Пётра, Тышкевіч, Марына, Сілаш—таксама калгасьнік)—ідуць на сход „драць пустазельле“.

Такі кароткі зьмест драмы. У драме выстаўлены ў сільным сьвятле клясавыя характары дзеючых асоб. Для папаўненьня рысаў характараў і паўнаты перажываньняў аўтар карыстаецца спосабам дадатковых абразкоў, як паясьненьняў. Напр.: „увайшоў у пакой Ніканор, стаў растапыркай“... Далей ідзе як-бы яго кароткая біографія, маляваньне яго постаці. Абразок канчаецца тымі ж словамі: „Увайшоў у пакой Ніканор“... Гэты спосаб дапаўненьня характару дадатковым маляваньнем, ня зьвязаным з самай акцыяй на сцэне, і робіць з драмы — эцюд.

Аўтар выразна праводзіць клясавую тэндэнцыю, увыпукляючы соцыяльную расслойку вёскі. Сьвядомая, варожая сіла кулакоў выкарыстоўвае цемнату і несьвядомасьць сялянства і скіроўвае іх спрытна супраць высілкаў калгасьнікаў. Сіла, аднак, кулакоў грунтуецца на слабых падставах. Праўда мусіць перамагчы. Яна і перамагае. Марына, аднак, зьяўляецца наіўнай, што ня можа з'орыентавацца ў гэтай заблутанасьці, ня бачыць хітрыкаў старожкі Анісьсі, дык выглядае нават крыху сьмешнай (паміма пэўнай трагічнасьці). Гэтая сьмешнасьць зрэштай неабходна для разьвіцьця драматычнай акцыі эцюду.

## Літэратурная хроніка.

— Друкуецца зборнік вершаў нашага таварыша М. Машары пад назовам „На сонечны бераг“. Друкаваньнем занялася грамадка самаахвярных беларускіх наборшчыкаў беларускай друкарні імя Фр. Скарыны ў Вільні.

— У Беларускім Студэнскім Саюзе ў Вільні ажывілася, пасьля пэўнага заняпаду ў папярэднім годзе, культурная праца. Ужо адбыўся цэлы рад аўтарскіх вечароў, на якіх чыталі свае творы маладыя беларускія пісьменьнікі (між іншымі — разьвіваючыся навэліст і драматург Я. Хвораст).

— У Вільні чуваць у розных групах аб патрэбе коопэратыўнага выдавецтва. Як быццам нават ужо робяцца пэўныя спробы рэалізацыі гэтае думкі. У сучасны мамэнт, калі знаходзяцца грошы на розныя непатрэбныя (па нашаму) выданьні, але толькі не на выданьне літэратурных (і навуковых) твораў, толькі ў коопэрацыі нашы пісьменьнікі і поэты знойдуць выхад з „крыўднага“ свайго палажэньня.

## Наша пошта.

**Сябра Казарэвіч.** (Вёска Макаршчына). Вы ня маеце грошаў на паштовую марку. Пішыце бяз маркі (але зазначце на канвэрце: „Літэратурны Куток“ — я за марку заплачу = не заплачу). Але адна рэч: ня пішыце вельмі часта, бо ў нас грошы ня хопіць, а падругое — пішыце рэчы прадуманыя, апрацаваныя, сільныя, шчырыя, з сэрца, з злосьці, радасьці і т. д. Ой, якая важная рэч — пісаць: не забывайцеся, што за кожнае слова адказываеце. Як шмат ёсьць поэтаў і пісьменьнікаў, якія шкадуюць, што яны рана началі друкавацца. Працуйце!

**Пашырайце нашу газэту!**

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22